**Гродна**
№10 (539),
17 мая 2020

www.slowo.grodnensis.by




# Слова Жыцця


ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




## Па дарозе да святасці



1920

2020

НАРАДЗІЎСЯ Ў ЗВЫЧАЙНАЙ СЯМ'І. РАНА СТРАЦІЎ БЛІЗКІХ. ШМАТ ВУЧЫЎСЯ. НАТХНЯЎСЯ, ЧЫТАЎ, ПІСАЎ. МАРЫЎ СТАЦЬ АКЦЁРАМ. СПАЗНЯЎСЯ НА ЗАНЯТКІ ВА ЎНІВЕРСІТЭЦЕ, БО ШМАТ МАЛІЎСЯ. АСАБІСТЫХ СРОДКАЎ НЕ МЕЎ. ДЗЯЛІЎСЯ АПОШНІМ: АДЗЕННЕМ, АБУТКАМ... СПАЎ БЕЗ ПАДУШКІ. І ХОЦЬ ЖЫЦЦЁВАЯ ВАНДРОЎКА СВ. ЯНА ПАЎЛА ІІ СКОНЧЫЛАСЯ, ВЕРНІКІ НЕ ПЕРАСТАЮЦЬ ДАВЕДВАЦЦА АБ ІМ ШТОСЬЦІ НОВАЕ. І ГЭТА НОВАЕ НАТХНЯЕ. ПРЫКЛАД СВЯТОГА ПАПЫ АБУДЖАЕ ПРАГУ ДА ЖЫЦЦЯ.


● працяг на с. 4




## ВЕРА ПАДЧАС ПАНДЭМІІ: У САМАІЗАЛЯЦЫІ, АЛЕ З БОГАМ

У СУВЯЗІ З ПАНДЭМІЯЙ КАРАНАВІРУСА КАСЦЁЛ ПРАПАНУЕ ВЕРНІКАМ ТРЫМАЦЦА РАЗАМ У РЭЖЫМЕ АНЛАЙН, КАБ ЛІШНІ РАЗ НЕ ПАДВЯРГАЦЦА РЫЗЫЦЫ ЗАРАЖЭННЯ. ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ МАСАВА ЗБІРАЦЦА Ў СВЯТЫНІ, КОЖНЫ МОЖА ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У СВ. ІМШЫ ВІРТУАЛЬНА. І Ў АБСТАВІНАХ, У ЯКІХ МЫ ЎСЕ АПЫНУЛІСЯ, – ГЭТА ВЫБАР У ДУХУ ХРЫСЦІЯНІНА: АДКАЗНЫ І З КЛОПАТАМ ПРА БЛІЖНЯГА.


● працяг на с. 5


**“Малітва – гэта подых веры, найбольш адпаведнае яе выражэнне”. Папа Францішак**

## Разважанні з Божым словам

**VI ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 14, 15–21**

Езус сказаў сваім вучням: "Калі любіце Мяне, будзеце захоўваць Мае запаведзі. І Я папрашу Айца, і дасць вам іншага Суцяшальніка, каб быў з вамі навекі, Духа праўды, якога свет не можа прыняць, таму што не бачыць Яго і не ведае. А вы Яго ведаеце, бо Ён з вамі ёсць і ў вас будзе. Не пакіну вас сіротамі, прыйду да вас. Яшчэ крыху і свет ужо не ўбачыць Мяне. Вы ж бачыце Мяне, бо Я жыву, і вы жыць будзеце. У той дзень спазнаеце, што Я ў Айцу Маім і вы ўва Мне, і Я ў вас. Хто мае запаведзі Мае і захоўвае іх, той любіць Мяне. А хто любіць Мяне, таго палюбіць Айцец Мой, і Я палюблю яго і аб'яўлюся яму".

### ПАЛЮБІЦЬ МОВУ ЛЮБОВІ

Езус выдатна ведаў, каго пакінуць нам пасля свайго адыходу, каб не засталіся сіротамі. Ён пабавіцца спасляць Святога Духа, які ад Яго імя будзе выконваць справу збаўлення. Наказаў людзям маліцца: "Дай нам Духа, і мы зноў адродзімся".

Чалавек павінен пастаянна адраджацца, каб жыць па-Божаму. Сілу нараджэння ў сабе мае любоў. Святы Дух як Бог з'яўляецца Любоўю, і мы ідзём насустрач гэтаму Духу з любоўю ў сэрцах і на далоні. Толькі на такой мове можам размаўляць з Ім.

Езус хацеў, каб пасля Яго адыходу мы легітыміраваліся любоўю. Яна творчая, гэтак жа, як творчы і сам Святы Дух, які пасяляецца ў сэрцы кожнага, хто жыве любоўю. Менавіта тады чалавек атрымлівае Сябра, Заступніка і Суцяшальніка. Наша задача – палюбіць мову любові, бо яна заўсёды мае крыніцу ў Богу.

Дык адкрыймася таму Духу, які ёсць Духам Праўды і Любові. Злучаныя з Ім, будзем жыць надзеяй канчатковага з'яднання калісьці з Хрыстом у Небе.

**Ці заўсёды маю жаданне жыць з Богам?**
**Ці малюся да Святога Духа?**

**VII ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 17, 1–11а**

Езус узняў вочы свае да неба і сказаў: "Ойча, прыйшла гадзіна. Услаў Сына свайго, каб і Сын Твой уславіў Цябе. Ты даў Яму ўладу над усякім целам, каб Ён даў жыццё вечнае ўсім, каго Ты даў Яму. А вечнае жыццё ў тым, каб спазналі Цябе, адзінага праўдзівага Бога, і таго, каго Ты паслаў, Езуса Хрыста. Я ўславіў Цябе на зямлі, выканаўшы справу, якую Ты даручыў Мне зрабіць. А цяпер Ты, Ойча, услаў Мяне ў сабе хвалою, якую меў Я ў Цябе перад існаваннем свету. Я абвясціў імя Тваё людзям, якіх Ты даў Мне са свету. Яны былі Тваімі і Ты даў Мне іх, і яны захавалі слова Тваё. Цяпер яны пазналі, што ўсё, што Ты даў Мне, ад Цябе паходзіць. Бо словы, якія Ты даў Мне, Я даў ім, і яны прынялі іх і сапраўды пазналі, што Я выйшаў ад Цябе, і паверылі, што Ты паслаў Мяне. Я за іх прашу. Не за ўвесь свет прашу, але за тых, каго Ты даў Мне, бо яны Твае. І ўсё Маё – гэта Тваё, і Тваё – гэта Маё, і Я ўславіўся ў іх. Я ўжо не ў свеце, але яны яшчэ ў свеце, а Я іду да Цябе".

### РАШЫЦЦА НА АХВЯРУ

Езус Хрыстус заслужыў вечнае жыццё для кожнага чалавека: грэшніка і святога, верніка і няверуючага, для таго, хто любіць Яго, і таго, хто ненавідзіць. Ён памёр за ўсіх і ўсім адчыніў брамы Неба.

Няма такога чалавека, на якога не сышла б ласка збаўлення з Хрыстовага Крыжа. Гэтую ласку спазнаў нават злодзей, які пакаяўся на крыжы і якому сам Езус абяцаў: "Сёння будзеш са Мной у раі" (Лк 23, 43). У словах Хрыста ўтоена надзея для ўсіх людзей, што няма такога граху, які не будзе прабачаны.

Вялікае жаданне Езуса – каб кожны чалавек быў збаўлены і мог атрымаць шчаслівую вечнасць, якая будзе заключацца ў пазнаванні Пана Бога і Яго – Таго, каго Бог паслаў (параўн. Ян 17, 3). Каб здабыць гэтую радасць, варта працаваць ужо тут, на зямлі. Варта цярпець ахвяры і прысвячаць сябе іншым людзям, калі за ўсё гэта Езус абяцае такую вялікую ўзнагароду. Без ахвяры няма перамогі.

**Ці прысвячаю я сябе іншым?**
**Ці ўсведамляю, што Хрыстос заслужыў для мяне ласку збаўлення?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

---

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Абавязак і прывілея

***Перажываючы 100-годдзе з дня нараджэння св. Яна Паўла ІІ, варта нанова расчытаць усё, што нам пакінуў вялікі Папа. Яго духоўны запавет змяшчае мноства важных ісцін і думак, усё яшчэ актуальных, якія натхняюць на новыя ініцыятывы ў служэнні Богу і людзям.***

Несумненна, многія з нас усведамляюць вялікі доўг удзячнасці, які маем перад св. Янам Паўлам ІІ. Святы Айцец жыў у часы 2-юх таталітарных сістэм – нацызму і камунізму – якія таптаглі чалавечую годнасць і сям'ю. Ён у значнай ступені спрыяў адраджэнню Касцёла ў сучаснай Беларусі: заснаваў нашу дыяцэзію, прызначыў першага біскупа.

Святы Папа вяртаў годнасць сям'і, якая служыць сустрэчы чалавека з чалавекам і чалавека з Богам. Бачыў у ёй першае і натуральнае асяроддзе евангелізацыі і катэхізацыі, таму што бацькі не толькі даюць дзіцяці жыццё, але і абавязаны нарадзіць яго да веры.

Вучэнне Яна Паўла ІІ уключала сапраўдны клопат пра чалавека. Святы Айцец адказваў на выклікі часу і вёў нястомную барацьбу за людзей. Ён таксама рашуча выказваўся на тэму эўтаназіі, узброеных канфліктаў, тэрарызму – усіх тых праблем, дзе рызыцы падвяргаліся чалавечая годнасць і жыццё.

Напярэдадні вялікага юбілею вернікі паклікаi нанова разглядзець свет каштоўнасцей, якімі св. Ян Павел ІІ жыў кожны дзень. Варта прасякнуцца яго чуласцю да лёсу іншай, асабліва згубленай, беднай, церпячай і патрабуючай салідарнай дапамогі асобы. Варта адкрыць святога Папу як чалавека малітвы, зачаравацца яго любоўю да Касцёла.

Нам таксама неабходна глыбока прыняць да сэрца яго знамянальныя словы: "Не бойцеся! Адчыніце, адчыніце насцеж дзверы Хрысту!". Няхай гэты заклік нясе святло надзеі для ўсяго чалавецтва, якое жыве ў нявызначанасці заўтрашняга дня з-за пануючай пандэміі. Няхай гэты заклік набярэ асаблівага значэння сёння, калі крытэрыі і нормы хрысціянскай тоеснасці так пахіснуліся. Пастаянна нарастаючы тэмп змен паглыбляе замяшанне і няўпэўненасць людзей, робіць іх духоўна аслабленымі і згубленымі ў лабірынце сучаснага свету. Таму так ва на адкрыць сваё сэрца на Бога, які адорвае ласкай, дакранаючыся да нашага сёння і заўтра.

**Дарагія Чытачы!**

**Няхай наследдзе св. Яна Паўла ІІ надалей жыве ў нас. Памятайма, што маем абавязак, але таксама прывілею, каб з моцай сведчыць пра тое, што ён дэманстраваў усім сваім жыццём і навучаннем.**

---

*Праз прызму пантыфікату святога Папы*

# Ян Павел ІІ:
## малітва і няспынная дзейнасць



*Хачу сказаць Вам усім, а асабліва маладым: не перастаавайце маліцца. Гэта можа быць нават малітва без слоў.*

Папа Ян Павел ІІ – філосаф, пісьменнік, паліглот (размаўляў на 13-ці мовах!). За апошнія 450 гадоў – першы намеснік св. Пятра з-за Італіі, з усходняй часткі Еўропы. Яго таксама можна назваць палітыкам, бо кіраваў дзяржавай. І хоць Ватыкан – самая маленькая краіна ў свеце, абавязкаў з гэтага вынікае не менш. Пры магчымасці любіў інкогніта выязджаць на лыжах у горы непадалёк Рыма… Адкуль Папа браў жаданне і сілы весці такое актыўнае жыццё?

У шматлікіх тэлеперадачах і інтэрв'ю супрацоўнікі Святога Айца Яна Паўла ІІ, яго сябры і знаёмыя ўспамінаюць пра тое, што ён вялікую ўвагу надаваў малітве. Кардынал Конрад Краеўскі, які цяпер з'яўляецца Апостальскім элемазінарыем, быў пры Папе 7 апошніх гадоў. Узгадвае, што Ян Павел ІІ вельмі часта маліўся перад Найсвяцейшым Сакрамантам: "там набіраўся колераў жыцця".

Звычай прабывання перад Панам у Гостыі не быў чымсьці выключным для Святога Айца. С. Зоф'я Здыбіцкая з Кангрэгацыі Сясцёр Уршулянак Сэрца Езуса Канаючага наведвала заняткі прафесара Караля Вайтылы па этыцы ў Каталіцкім універсітэце ў Любліне. Яна расказвала, што сярод выкладчыкаў студэнты "мелі розных добрых ксяндзоў, але прафесар Вайтыла адрозніваўся тым, што на перапынках паміж заняткамі браў у рукі брэвіярый і маліўся". А яшчэ ён шмат маліўся за навучэнцаў.

Ян Павел ІІ імкнуўся ўсім сваім жыццём праслаўляць Бога. Быў цікаўнай, творчай асобай. З дзяцінства яго вабілі паэзія і тэатр. Першы томік вершаў пад назвай "Рэнесансавы псалтыр" Караль Вайтыла напісаў яшчэ будучы вучнем. Ён быў прысвечаны маме, Эміліі Вайтыле. Томік пабачыў свет ажно ў 1999 годзе, пасля згоды аўтара.

Яшчэ ў школе маленькі Караль пачаў наведваць тэатральную групу. Негледзячы на перараване навучанне ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, ад кастрычніка 1939 года маладзён вечарамі хадзіў на сустрэчы ў дом Юльюша Кудрыньскага, польскага празаіка, крытыка тэатра і кіно, дзе яны з сябрамі зачытваліся літаратурай. З той групы ў 1941 годзе ўтварыўся Рапсадычны тэатр (пачаткова Тэатр жывога слова). Караль пісаў п'есы на біблейскія сюжэты, распачаў пераклад на польскую мову "Цара Эдзіпа" Сафокла… "Я мушу прызнаць, што гэты асаблівы тэатральны досвед запісаўся глыбока ў маёй памяці, хоць ад пэўнага моманту я ўсведамляў, што тэатр не быў маім пакліканнем".



*Папа моліцца ў капліцы Маці Божай Чанстахоўскай, 1983 г.*

У 1946 годзе Караль Вайтыла атрымаў святарскія пасвячэнні. З гэтага часу распачаўся яго шлях як святара, біскупа, Папы. Будучы пільным, уважлівым і чулым душпастырам, ён вельмі шмат зрабіў для Паўсюднага Касцёла. Застанецца ў памяці людзей нязломным міратворцам, адважным змагаром за свабоду і правы чалавека.

Пантыфікат папы Яна Паўла ІІ доўжыўся 26 гадоў (даўжэй за яго на пасадзе намесніка св. Пятра былі толькі сам апостал Пётр і папа Пій ІХ). За гэты час Святы Айцец здзейсніў больш за 100 замежных паездак, наведваючы каля 130-ці краін. Шмат пісаў, навучаў, маліўся…

Пазней фатограф папы Яна Паўла ІІ Артура Мары ўзгадае паездку Святога Айца напрыканцы яго пантыфікату ў рымскі педыятрычны шпіталь Bambino Gesu: "Калі Папа знаходзіўся ў зале для цяжкахворых дзяцей, у пэўны момант адна з мам, плачучы, падбегла да яго, палажыла на калені сваё хворае дзіця, пракрычала: «Яно павінна жыць!». І выбегла з залы. Святейшы Айцец пачаў калыхаць плачучае дзіця. Неўзабаве паклікалі маці. Яна ўкленчыла каля Святейшага Айца, і некалькі хвілін яны трывалі ў супольнай малітве. Потым жанчына ўстала і, супакоеная, сказала: «Маё дзіця будзе жыць, калі гэты чалавек будзе на алтарах». Дзіця было выпісана са шпіталя ў дзень беатыфікацыі Яна Паўла ІІ…".

*Кацярына Паўлоўская і Ангеліна Пакачайла*

# Хрыстос іх выбраў, аказваючы вялікую ласку

**Многія святары з Гродзенскай дыяцэзіі ў 2020 годзе адзначаюць круглую гадавіну святарскіх пасвячэнняў. Святкуючы малыя ці вялікія юбілеі, яны ўсё больш усведамляюць, што тое, што атрымалі ад Бога, з гадамі становіцца вялікім абавязкам працы і самаадданасці.**

**У сённяшнім нумары газеты "Слова Жыцця" святары-юбіляры распавядаюць пра пачаткі святарства, падсумоўваючы гады свайго служэння, а таксама пра малітоўныя інтэнцыі, якія носяць у сваім сэрцы ў гэты асаблівы для іх час.**

## 25 гадоў святарства



Кс. канонік Юзаф Ганчыц

Закранаючы тэму паклікання, гледзячы на гэта з перспектывы пражытых гадоў, я бачу, што Бог у сваім Провідзе меў план. У свой час Ён паслаў на маю дарогу светлай памяці кс. каноніка Уладзіслава Мяшчанскага і праз яго сэрца, вусны і прыклад жыцця прамовіў і заахвоціў мяне пайсці шляхам святарства. Я не мог пярэчыць тады яго словам: "Паспрабуй".

У чым сутнасць святарскай паслугі? На маю думку, перш за ўсё, у знаходжанні з людзьмі. Трэба любіць прысвячаць свой час іншаму чалавеку. Таксама гэта нястомныя малітвы, таму што святар – "муж малітвы". А самае галоўнае ў малітве – слухаць, каб з даверам дазваляць Богу, які паклікаў, дзейнічаць і рабіць тое, чаго Ён хоча: "Слухай..." – і "будзеш...".

Падсумоўваючы гады сваёй паслугі, магу сказаць, што я шчаслівы, паколькі Пан у сваёй вялікай любові дазволіў мне ў Яго гонар пабудаваць святыню. І бачную, і духоўную, над якой увесь час трэба працаваць. Як можна не дзякаваць Богу за тых людзей, якіх Ён паставіў і да гэтага часу ставіць на маім святарскім шляху, за парафіян, за тое, што адбываецца ў жыцці супольнасці, за сем'і, дзяцей, пажылых асоб і за тых, з кім супрацоўнічаю – святароў, манахінь...

У гэтым юбілейным годзе я асаблівым чынам малюся аб тым, каб даваць людзям Слова жыцця – Езуса, каб як мага больш сэрцаў было адкрыта для збаўлення. Штодня дзякую Богу за тое, што дазваляе бачыць і любавацца Яго любоўю ў кожнай жыццёвай сітуацыі.

## 20 гадоў святарства



Кс. Ян Сарэла

Гаварыць пра пакліканне – складаная справа, бо няпроста зразумець, чым сапраўды з'яўляецца пакліканне: у кожнага свой шлях. Разважаючы пра ўласнае святарства, вяртаюся думкамі ў дзяцінства – пачатак быў там. Я рос у атмасферы жывой веры ў Бога. Гэта была простая і дынамічная вера людзей, якія жылі побач, ахвярная адданасць Богу і Касцёлу вернікаў з роднай мясцовасці і парафіі. Цяпер я цаню тое і вельмі ім удзячны.

Нічога надзвычайнага са мной не адбылося, ніхто мне не сказаў: "Ідзі ў семінарыю". Не меў прыватных "аб'яўленняў", не складваў ніякіх прысяг Богу. Але аднойчы пачаў чуць унутры сябе голас. Мы называем гэта голасам сумлення, бо Бог размаўляе з намі менавіта праз сумленне. Той голас, які я чуў, з'яўляецца "таямніцай" майго паклікання... Выбірае Бог! Гэта Яго ініцыятыва і воля. А для мяне назаўсёды застанецца загадкай, чаму абраў менавіта мяне.

Калі гаварыць пра сутнасць святарскай службы, я нічога новага не распавяду. Святарства не з'яўляецца працай у касцёльных установах, але крочаннем за Хрыстом, каб кожны дзень адказваць Богу "так". Святарства – гэта служэнне вернікам, якіх неабходна прымаць такімі, якія яны ёсць, а не такімі, якімі хтосьці хацеў бы, каб былі. Трэба моцна любіць Касцёл, прысвячаць службе Богу і людзям усё жыццё, таму што святары атрымліваюць пасвячэнні не для сябе, а для таго, каб служыць іншым.

Святар – духоўны айцец. І гэтае бацькоўства заключаецца ў тым, каб браць на сябе адказнасць за іншых людзей, весці іх, клапаціцца і абараняць ад небяспек па прыкладзе Хрыста, Добрага Пастыра. Пакліканы да святарства адначасова пакліканы да духоўнага бацькоўства. Такія якасці, як зычлівасць, устойлівасць духу, эмацыянальная стабільнасць, асабістая культура, не з'яўляюцца нейкім недасяжным ідэалам.

Святарскае жыццё – гэта жыццё, арыентаванае на Езуса. Для мяне вельмі красамоўнымі з'яўляюцца словы св. Яна Хрысціцеля: "Яму трэба ўзрастаць, а мне станавіцца меншым" (Ян 3, 30). Калісьці я атрымаў віншавальную паштоўку, не памятаю, з якой нагоды, дзе было напісана, каб быў святым ксяндзом. Гэта адна з самых складаных і важных задач у жыцці кожнага святара. Св. Ян Златавуст сказаў: "Святар павінен мець душу больш чыстую, чым сонечныя прамяні". Да гэтага трэба імкнуцца.

У чым радасць майго святарства? Складанае пытанне. У тым, што я святар, інструмент у руках Бога, і што Ён усё яшчэ на мяне разлічвае. З узростам прыходзіць думка, што чалавек не дарастае да святарства, але суцяшаюць словы: "Усё магу ў Тым, хто мяне ўзмацняе" (Флп 4, 13).

У гэтым годзе я прашу Бога, каб не дазволіў мне паддацца спакусе страху. "Божа, крызіс!". Крызіс пакліканняў, памяншэнне колькасці практыкуючых, крызіс аўтарытэту, лібералізм і г. д. Прагну зрабіць рахунак сумлення і папрасіць Бога, каб Яго воля здзейснілася ў маім жыцці, каб я быў шчаслівы ў святарстве і быў чалавекам надзеі. Малюся, каб Валадарства Хрыста распаўсюджвалася па свеце і ў нашай краіне, каб мы не перашкаджалі Усемагутнаму выконваць Яго волю на зямлі, каб кожны паводле свайго стану быў супрацоўнікам Бога і будаўніком Яго Валадарства.

## 10 гадоў святарства



Кс. Уладзіслаў Сурвіла

Сёння, гаворачы пра сваё пакліканне, разумею, што яно прыйшло не адразу. Маючы перад вачыма прыклады розных святароў, пазнаючы іх жыццё, мне таксама хацелася служыць іншым, дапамагаць людзям сустрэцца з Божай любоўю.

Узгадваючы пачатак свайго служэння, дзякую Усемагутнаму, што на першай парафіі, гледзячы на старэйшых ксяндзоў, якія былі побач, меў магчымасць пазнаваць, якім павінен быць сапраўдны святар. Разумею цяпер, наколькі неабходна штодзённая малітва, асабліва Ружанец і разважанне Божага слова, хоць часам гэта і нялёгка. Без гэтага не вытрымаць у святарстве.

Кожны год я пазнаю тое, што напаўняе жыццё: адчуваю, што Бог любіць мяне, і імкнуся адказаць на Яго любоў. Дзялюся гэтым з іншымі, стараюся быць адкрытым для кожнага чалавека. Дзякую Богу за сваё пакліканне і прашу ў малітве, каб збаўляючыся, весці іншых да збаўлення.

*Кінга Красіцкая*

**Працяг у наступным нумары**

---

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Вера з'яўляецца крыкам; нявер'е – падаўленнем гэтага крыку, своеасаблівай "амертай" – зговарам маўчання. Вера з'яўляецца пратэстам супраць жаласнага стану, прычыны якога мы не разумеем; нявер'е – знашэннем сітуацыі, да якой прыстасаваліся. Вера з'яўляецца надзеяй, што будзем збаўлены, нявер'е – прывычкай да зла, якое нас непакоіць.*

*У сэрцы чалавека існуе ўмольны голас, мацнейшы за любы іншы аргумент супраць. Голас, які ўзнікае спантанна, ніхто яго не навязвае, голас, які засяроджвае над сэнсам нашага пілігрымавання тут, на зямлі, асабліва, калі знаходзімся ў цемры: "Езу, змілуйся нада мной! Езу, змілуйся над усімі намі!".*

*Але ці ж гэтыя словы не выгравіраваны ва ўсім стварэнні? Усё заклікае і моліць, каб таямніца міласэрнасці знайшла сваё канчатковае выкананне. Моляцца не толькі хрысціяне: яны раздзяляюць крык малітвы з усімі людзьмі. Але гэты гарызонт можна яшчэ пашырыць: св. Павел гаворыць, што ўсё стварэнне "стогне і нараджае ў пакутах" (Рым 8, 22). Мастакі часта выражаюць гэты маўклівы крык, які непакоіць кожнае стварэнне і праяўляецца найперш у сэрцы чалавека, бо чалавек – "жабрак Бога" (параўн. ККК 2559).*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 06.08.2020*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*На сённяшні ад COVID-19 няма вакцыны. Але, што самае страшнае, ад яе няма нейкага спецыфічнага лячэння, якое б уздзейнічала на сам вірус. Фактычна, нашы медыкі гераічна змагаюцца за жыццё хворых з адзінай мэтай: максімальна падтрымліваць іх жыццёва важныя органы, пакуль арганізм не выпрацуе ўласныя антыцелы. Гэта патрабуе часу: звычайна 2-3 тыдні. Часу, якога ў чалавека можа і не быць... Сёння я асаблівым чынам звяртаюся да людзей, якія асабіста адчулі, што такое каранавірус. Любыя Браты і Сёстры ў Хрысце! Заклікаю Вас выканаць запаведзь любові да бліжняга і дапамагчы іншым хворым, калі вы самі нядаўна перанеслі пацверджаны выпадак COVID-19. Вашымі антыцеламі будуць эксперыментальна лячыць іншых, цяжкахворых людзей. [...] Гэты добры ўчынак хрысціянскай міласэрнасці будзе прыемным Богу і, магчыма, дапаможа не толькі ўратаваць камусьці жыццё на зямлі, але таксама пакажа шлях веры ў вечнае жыццё, які для ўсіх людзей адкрыў уваскрослы Хрыстос.*

*Фрагмент звароту да вернікаў, якія перанеслі каранавірусную інфекцыю, 05.05.2020*




◆ *У Вадавіцах (Польшча) распачалася дыяцэзіяльная фаза беатыфікацыйнага працэсу Слуг Божых Караля і Эміліі Вайтылаў, бацькоў св. Яна Паўла ІІ. Пастулятар працэсу кс. прэлат Славамір Одэр адзначыў, што іх постаці добра вядомыя ў Польшчы і многіх іншых краінах, таму першы крок да будучай беатыфікацыі – радасная навіна для шматлікіх вернікаў ва ўсім свеце. Урачыстую св. Імшу з гэтай нагоды ў мясцовым касцёле ўзначаліў арцыбіскуп Марэк Ендрашэўскі, Мітрапаліт Кракаўскі.*

◆ *У Пакістане зафіксаваны абуральныя выпадкі парушэння свабоды веравызнання. Некаторыя асобы выкарыстоўваюць крызіс, выкліканы пандэміяй каранавіруса, каб "перацягнуць" людзей у сваю рэлігію шляхам шантажу: прапануюць прадуктовую дапамогу ў абмен на пераход у іслам. У грамадстве таксама назіраюцца гвалтоўныя звароты маладых жанчын індуісцкага і хрысціянскага веравызнання ў іслам праз прымусовыя шлюбы з мусульманамі. Такім чынам яны ратуюць сваё жыццё і сям'ю ў крызісны перыяд.*

◆ *Генеральны сакратар Камісіі Біскупскіх Канферэнцый Еўрапейскай Супольнасці папярэдзіў, што барацьба з пандэміяй каранавіруса не павінна быць апраўданнем для падаравання рэлігійнай свабоды у Еўропе. У спецыяльнай заяве кс. Мануэль Барыёс Прыета нагадаў, што аднаўленне набажэнстваў у святынях павінна праводзіцца грамадзянскімі органамі ў дыялогу з касцёльнымі інстытутамі, выкарыстоўваючы ясныя, а не адвольныя правілы. Паведамленне Камісіі – рэакцыя на сітуацыю ў Італіі і Францыі, дзе ўзніклі вялікія цяжкасці ў аднаўленні цэлебрацыі літургіі з удзелам вернікаў, хоць іншыя санітарныя абмежаванні, уведзеныя падчас пандэміі, ужо значна аслаблены.*

◆ *Пастаянны назіральнік Святога Пасада пры ААН у Жэневе (Швейцарыя) падчас асамблеі Сусветнай арганізацыі па інтэлектуальнай уласнасці заклікаў да этычнасці тэхналагічнага прагрэсу. Арцыбіскуп Іван Юркавіч выказаў спадзяванне, што распрацаваны даследчы інструмент "Patentscope" для вывучэння віруса Covid-19 стане ключавым у распаўсюджванні інфармацыі, патрэбнай для сусветнай барацьбы з пандэміяй. Іерарх падкрэсліў, што агульнай мэтай павінна заставацца забеспячэнне развіцця тэхналогій з тым, каб яны выкарыстоўваліся згодна з маральнымі нормамі на карысць чалавецтва і навакольнага асяроддзя.*

◆ *У маі партал Aleteia.org прапануе топ-10 лепшых фільмаў пра Маці Божую: "Марыя, Маці Езуса" (1999), "Марыя з Назарэта" (2012), "Юзаф і Марыя" (2016), "Нараджэнне" (2006), "Пад Тваёй абаронай" (1933), "Mary's land. Зямля Марыі" (2013), "Маці Божая з Гвадэлупы / Цуд Гвадэлупы" (2006), "Поўная ласкі" (2015), "Чорная Мадонна з Сэнт-Луіс" (2001), "Маці Божая Пустынная" (1999).*

*vaticannews.va; credo.pro; aleteia.org*

# По дарозе да святасці

● працяг са с. 1

***З кожным годам мы становімся крыху іншымі. На гэта ўплывае вопыт, пережытыя падзеі, здзейснены выбар, стаўленне да многіх рэчаў і г. д. Прапануем кароткую вандроўку ў часе па гадавінах з дня нараджэння Яна Паўла ІІ. Якім ён быў, як змяняўся, сталеў… Можа, штосьці стане для вас адкрыццём.***

**1920**

*Караль Вайтыла нарадзіўся 18 мая 1920 года ў Вадавіцах каля Кракава (Польшча) у сям'і Караля і Эміліі Вайтылаў. Бацька быў паручыкам польскага войска, маці – настаўніцай. "Я павінен сказаць, што тады, […] а 9-ай з раніцы, не было мяне яшчэ на свеце. Як пазней сказалі, я нарадзіўся апоўдні паміж 5-ай і 6-ай гадзінай. Больш-менш у гэтым часе, паміж 5-ай а 6-ай, толькі што 58 гадоў пазней, я быў абраны на Папу", – узгадваў у 2000 годзе св. Ян Павел ІІ у прамове да дзяцей у Кельцах (Польшча).*

*У дзень нараджэння Святога Айца мела месца сонечнае зацьменне. Дарэчы, яго таксама можна было назіраць у дзень пахавання вялікага Папы, 8 красавіка 2005 года.*

**1941**

*Свой 21-шы дзень нараджэння Караль Вайтыла сустрэў у адзіноце: нікога з сям'і не было побач. Роўна 3 месяцы таму ў вечнае жыццё адышоў яго бацька. Раней, у 1932 годзе памёр старэйшы брат Эдмунд, у 1928 годзе – маці. Мала хто ведае, але Караль Вайтыла меў таксама сястру, якая сканала праз 16 гадзін пасля нараджэння.*

**1947**

*27-мы дзень нараджэння Караль Вайтыла адзначыў у якасці святара. У канцы мінулага года ён атрымаў прэзбітэрскае пасвячэнне. Цікава, але пасля заканчэння семінарыі св. Ян Павел ІІ думаў аб тым, каб паступіць ў кармэліцкі кляштар і жыць у адасабленні і цішыні як манах… а стаў Папам, імя якога прагучала на ўвесь свет.*

**1958**

*Караль Вайтыла яшчэ не ведае і нават не думае, што стане біскупам. Хутка, у верасні, Святы Айцец Павел VI узвядзе яго ў гэты сан і, такім чынам, Вайтыла ў свае 38 гадоў будзе самым маладым членам епіскапата Польшчы. Неўзабаве ён стане арцыбіскупам, а пасля атрымае тытул кардынала.*

**1979**

*59-ты дзень нараджэння Караль Вайтыла адзначыў як папа Ян Павел ІІ (абраны на канклаве ў кастрычніку мінулага года). Прыняў імя папярэдніка Яна Паўла І, які з'яўляўся галавой Касцёла ўсяго 33 дні (памёр праз 2 тыдні пасля распачацця пантыфікату).*

*Святы Айцец Ян Павел ІІ імкнуўся спрасціць сваю пасаду, пазбаўляючы яе шматлікіх каралеўскіх атрыбутаў. Падкрэсліваў ролю, якая пазначана ў тытуле Папы: Servus Servorum Dei (з лац. "слуга слуг Божых").*

**1981**

*У 61-шы дзень нараджэння папа Ян Павел ІІ быў пераведзены з аддзялення інтэнсіўнай тэрапіі ватыканскай клінікі Джэмэлі ў свае апартаменты на 10-ым паверсе, дзе звычайна праходзіў медыцынскія абследаванні. Некалькімі днямі раней на яго было здзейснена пакушэнне: тэрарыст цяжка раніў Пантыфіка ў жывот. Куля прайшла літаральна ў міліметрах ад аорты. Медыкі лічаць ураtаванне цудам. Папа нібы яшчэ раз нарадзіўся.*

**1986**

*У 66-ты дзень нараджэння Святога Айца Яна Паўла ІІ апублікавана яго 5-ая энцыкліка "Dominum et vivificantem". Яна прысвечана Святому Духу і Яго ролі ў жыцці Касцёла. Лічыцца, што гэта самае працяглае і складанае разважанне пра Святога Духа ў гісторыі папскіх энцыклік.*

*Св. Ян Павел ІІ быў аўтарам больш 120-ці філасофскіх і багаслоўскіх работ і 5-ці кніг. Самая папулярная з іх – "Пераступіць парог надзеі" – разышлася тыражом у 20 млн экзэмпляраў.*

**2005**

*Упершыню вернікі адзначылі дзень нараджэння Папы без яго ўдзелу. Ян Павел ІІ не дажыў да свайго 85-годдзя, адышоўшы па ўзнагароду да Пана 2 красавіка. Праз крыху больш за месяц яго наступнік Бенедыкт XVI распачаў беатыфікацыйны працэс любімага народам Папы (хоць згодна з канонам павінна прайсці мінімум 5 гадоў пасля смерці чалавека, перш чым Касцёл можа распачаць гэты працэс).*

**2014**

*Напярэдадні дня нараджэння Папы – 27 красавіка – Касцёл кананізаваў Яна Паўла ІІ. Такім чынам, 94-ую гадавіну з дня яго нараджэння вернікі адзначалі падзякай Богу за дар святога Папы.*

*Сам Ян Павел ІІ далучыў да ліку святых і благаслёных Касцёла больш людзей, чым усе яго папярэднікі з XVI стагоддзя. Кананізаваў 475 асоб і беатыфікаваў – 1338.*

**2020**

***Сёлета прыпадае 100-годдзе з дня нараджэння вялікага Папы. У многіх краінах свету запланаваны розныя памятныя ініцыятывы з гэтай нагоды. Найбольшага размаху яны, вядома, набываюць у Польшчы – на радзіме Яна Паўла ІІ. Як адзначае епіскапат краіны, "пануючая пандэмія перашкодзіла планам, але не адмяніла іх". Арганізатары сустрэч, выстаў, канцэртаў, прысвечаных юбілею, адаптавалі і па-новаму інтэрпрэтавалі тое, што было падрыхтавана. Шматлікія мерапрыемствы адбудуцца ў анлайн-рэжыме.***

***Прапануем па прыкладзе суседзяў з Польшчы падзякаваць святому Папе ў сацыяльных сетках. Дастаткова напісаць на аркушы паперы "Дзякуй, Ян Павел ІІ!", сфатаграфавацца з ім і апублікаваць на сваёй старонцы з хэштэгам #ДзякуйЯнПавелII. Удзел у акцыі з'яўляецца жэстам удзячнасці Святому Айцу, які шмат зрабіў для Касцёла і свету. Магчыма, такім чынам аб ім даведаецца большая колькасць людзей (канешне, калі яшчэ ёсць тыя, хто нічога не чуў пра слыннага Папу-паляка).***

***Агульнабеларуская пілігрымка ў Ватыкан шляхам св. Яна Паўла ІІ, якая планавалася на ўрачыстасці святкавання 100-годдзя з дня яго нараджэння, перанесена на восень бягучага года. Дадатковая інфармацыя будзе пададзена пазней.***

*Ангеліна Пакачайла*

● працяг са с. 1

# ВЕРА ПАДЧАС ПАНДЭМІІ: У САМАІЗАЛЯЦЫІ, АЛЕ З БОГАМ

**Зразумела, мы прызвычаіліся да велічы інтэр'ера святынь, магчымасці перадаць знак супакою парафіянам, прыняць Цела Хрыста… І гэта ўсё дадае нам набожнасці. Аднак Касцёл – не мураваныя ці драўляныя сцены, а найперш тое адчуванне блізкасці да Пана, што маем унутры сябе. І перыяд самаізаляцыі можа прынесці добры плён – паказаць, якая сапраўды наша вера.**

**Пра адносіны з Богам, а таксама пра прыклады рэлігійных ініцытываў у няпросты час распавядаюць вернікі, якія на некаторы перыяд аддалі перавагу рэлігійным практыкам у віртуальнай рэальнасці.**

## На адной хвалі падчас набажэнстваў



**Кс. Яўген Эйсмант SAC**, парафія свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша ў Воранаве (дэканат Радунь)

*Шчыра кажучы, у нашай парафіі даўно зарадзілася задума трансліраваць св. Імшы ў рэжыме анлайн. Хацелася выйсці ў сеціва, каб людзі, якія не маюць магчымасці прыйсці ў касцёл па той ці іншай прычыне, маглі ўдзельнічаць у цэлебрацыі Эўхарыстыі віртуальна. Аднак былі прычыны, па якіх ідэя так і заставалася нерэалізаваным планам. Цяпер жа наступіў момант, калі гэта сталася неабходнасцю.*

*Транслюем толькі нядзельныя набажэнствы. Па водгуках людзей, гэтага дастаткова. Аднойчы толькі здарылася сітуацыя, калі папрасілі правесці трансляцыю і ў будні дзень, бо ахвярадаўца цяпер знаходзіцца па-за межамі Беларусі.*

*Стараемся заўсёды сачыць за тым, колькі людзей удзельнічае ў Імшы анлайн. Статыстыка паказвае, што праз Instagram далучаецца больш гледачоў, чым праз YouTube. Аднак тых, хто Імшу даглядзеў да канца, на YouTube больш, чым у Instagram. Чаму так – вельмі проста. Многія, прагледзваючы стужку, аўтаматычна сочаць за тым, што адбываецца ў нас. І звычайна пераходзяць далей, калі іх гэта не цікавіць. Але глядзіш – наступным разам хтосьці застанецца.*

*Часцей у Імшы анлайн удзельнічаюць моладзь і людзі сярэдняга ўзросту. Што датычыць людзей сталых – іх праз сілу не прымусіш застацца дома і маліцца ў самаізаляцыі. Старэйшае пакаленне прайшло вайну, камунізм, зачыненыя касцёлы – і ўвесь гэты час яны баранілі сваю веру. Цяпер, магчыма, не адчуваючы намацальнай небяспекі, яны нічога не баяцца, упэўненыя, што Бог абароніць. Таму, мяркую, дзеці і ўнукі павінны браць на сябе большую адказнасць і дапамагаць бабулям і дзядулям з тэхнічнага боку арганізоўваць св. Імшы анлайн.*

*Падсумоўваючы, адзначу, што шмат пазітыўных водгукаў атрымліваем ад вернікаў і ад свецкіх улад. Асабіста я заўважаю сярод людзей дынамічнасць і ў зацікаўленасці рэлігійнымі ведамі, і ў сведчанні сваёй веры: пішуць каментары, задаюць пытанні, дзеляцца меркаваннямі. Вельмі цешыць, што многія сталі перажываць свой рэлігійны досвед больш актыўна і больш свядома.*

## Катэхеза анлайн

**Вольга Голуб**, сакратар Аддзела каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі і Тэалагічнага каледжа імя св. Казіміра

*У каледжы ў рэжым навучання анлайн мы перайшлі яшчэ ў сакавіку. Паслухмяныя свайму пастыру, паступілі згодна рэкамендацыям нашага біскупа Аляксандра Кашкевіча, які раіць пакуль што пазбягаць скопішча людзей.*

*Для правядзення лекцый анлайн выкарыстоўваем праграму Zoom. Каб лекцыі адбываліся, кожны ўдзельнік анлайн-канферэнцыі – выкладчыкі і студэнты – усталяваў на свой тэлефоне ці іншай прыладзе згаданую праграму. Я адказваю за арганізацыю канферэнцыі: высылаю выкладчыку і студэнтам яе ідэнтыфікацыйны нумар, за 10 хвілін да пачатку адкрываю ўваход у канферэнцыю. За гэты час можна праверыць падрыхтоўчыя моманты: ці працуе аўдыё і відэасувязь. Калі ўсё добра, распачынаем анлайн-навучанне. Каб не было шуму, які можа перашкаджаць падчас канферэнцыі, мікрафоны і відэа ў студэнтаў выключаныя. Кожны падпісаны сваім прозвішчам і імем, некаторыя ўстанавілі сваё фота, каб выкладчык ведаў, хто прысутны на лекцыі і хто задае пытанне.*

*Большая частка студэнтаў – а гэта амаль 80% – удзельнічае ва ўсіх анлайн-лекцыях. На жаль, некаторыя не могуць прысутнічаць альбо спазняюцца на занятак па розных прычынах. Хтосьці ў час, калі праходзіць навучанне, працуе, а хтосьці не можа ўдзельнічаць, бо не мае адпаведнай прылады або якаснай сувязі, каб прымаць удзел у лекцыі анлайн. Сустракаецца ў інтэрнэт-прасторы ўвечары па буднях на працягу гадзіны, а па суботах – амаль цэлы дзень.*

*Па-мойму, добра, што інтэрнэт дае магчымасць у цяперашняй сітуацыі не адмяніць заняткі ўвогуле, а працягваць іх. Вядома, гэта не зусім зручна, асабліва для выкладчыкаў, якія прызвычаіліся кантактаваць са студэнтамі непасрэдна, бачыць, як яны ўспрымаюць матэрыял, назіраць за іх рэакцыяй на тую ці іншую інфармацыю. У дадзеных абставінах гэта выглядае крыху інакш: пытанні можна задаць у даступным падчас канферэнцыі чаце або напрыканцы сустрэчы. Гэта іншы фармат, але новыя магчымасці.*

*Разам з тым маем надзею, што ў бліжэйшы час сітуацыя ў нашай краіне зменіцца ў добры бок. Спадзяёмся і молімся, каб хворыя хутчэй акрыялі і жыццё людзей вярнулася ў норму. Як толькі сітуацыя выправіцца, адразу пяройдзем у звычайны рэжым і будзем сустракацца, як і раней, двойчы на месяц, у 2-ую і 4-ую суботу і нядзелю месяца.*



## Фізічна – дома, духоўна – у святыні



**Сям'я Яны, Аляксандра і Караліны Сасім**, парафія Перамянення Пана ў Новай Мышы (Пінская дыяцэзія)

*Рашэнне маліцца дома далося нам нялёгка. Акурат тады набліжаўся Святы Пасхальны Трыдуум і Вялікдзень. Зразумела, у кожны з гэтых дзён хацелася прысутнічаць у касцёле: прыняць св. Камунію, асвяціць ежу і павіншаваць родных і знаёмых радасным "Алелюя", з любоўю абняць іх. Аднак мы маем маленькае дзіця, сталых бабуль і дзядуль, і хочам зберагчы здароўе блізкіх, каб на наступны год сустрэўшыся ў святыні, радасна сказаць ім: "Хрыстос Уваскрос!".*

*Як вынік, урачыстую Імшу мы перажывалі анлайн. Вельмі адказна падышлі да гэтага перажывання. Прадумалі ўсе нюансы, нават падабралі вопратку. Канешне, нельга параўнаць кожны перажыты Вялікдзень нашага жыцця з Пасхай 2020, так як не было звычайнага пачуцця велічы гэтага свята. Было цяжка з-за таго, што не змаглі прыняць Хрыста ў св. Камуніі. І з-за таго, што мала людзей мелі магчымасць знаходзіцца ў касцёле ў гэтую святую ноч… Аднак так было неабходна: гэта быў наш выраз любові да бліжняга.*

*Цяпер кожную нядзелю працягваем удзельнічаць у св. Імшы анлайн. Самае цяжкае ў гэтым – немагчымасць сустрэчы з Хрыстом, утоеным у св. Камуніі. Аднак мы штораз стараемся злучыцца з Ім праз прынясце духоўнай св. Камуніі. Смутна і тое, што нельга прыступіць тады, калі хочацца. Трэба шукаць магчымасць, калі ў касцёле будзе менш за ўсё людзей – у будняя дні ці раніцай.*

*Але, у цэлым, духоўнае жыццё хрысціяніна не надта змянілася. Як і раней, можна здзяйсняць учынкі міласэрнасці, нават анлайн. Напрыклад, праз аказанне фінансавай дапамогі хвораму дзіцяці. Як і раней, можна чытаць Святое Пісанне, маліцца літаніямі, Вяночкам да Божай міласэрнасці і г. д. Зразумела, мелі рэлігійныя планы на лета: пайсці ў пілігрымку ў Навагрудак, Будслаў, Лагішын. Аднак няхай дзеля дабра і здароўя ўсіх вернікаў гэта пакуль і застаецца ў планах. Дасць Бог – і ўсё зменіцца!*

## КАМЕНТАРЫЙ СВЯТАРА

**Кс. Станіслаў Краўчанка**, вікарый парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе

*Пандэмія ўзмацніла дзейнасць Касцёла ў інтэрнэце. Некаторыя хваляць рашэнне ўдзельнічаць у св. Імшы з дапамогай тэлевізара ці камп'ютэра. Іншыя кажуць, што анлайн-служба – "нешта не тое". У кожным выпадку, віртуальная актыўнасць у інтэрнэт-прасторы – гэта агульная рэакцыя Касцёла на рэчы, якія адбываюцца ў свеце, і жаданне выкарыстаць магчымасці, якія сёння ёсць у кожнага.*

*Цудоўна, што інтэрнэт можа дазволіць нам разам трываць на малітве. Дзякуючы сучасным тэхналогіям, можам быць аб'яднаны ў Хрысце, знаходзячыся ў розных месцах. Напрыклад, тата "за рулём" у дарозе, мама "на абедзе" ў шпіталі, дзеці з бабуляй і дзядулем "на ўдалёнцы" дома. Аднак варта памятаць, як нагадвае папа Францішак, што адносіны з Богам і бліжнім у рэальнасці ці ў рэжыме анлайн могуць быць рознымі. Часам у адным пакоі адначасова прысутнічаюць мама з дзецьмі, удзельнічаючы ў Імшы анлайн, і тата, які вядзе бітвы ў камп'ютэрных гульнях. Маю надзею, што тэхналогіі будуць для нас сродкам і інструментам, а не мэтай. Важна, каб былі не толькі "прыклеены" да экранаў, але сапраўды духоўна звязаны і з Богам, і бліжнім, і адзін з адным.*

*Ангеліна Марцішэўская*

---

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

### CATHOLIC.BY

**Юбілей старэйшага ў Беларусі іерарха**

**5 мая дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец OP адзначыў 75-годдзе.**

Яго Эксцэленцыя нарадзіўся ў Стараволі, што на Брэстчыне, у набожнай каталіцкай сям'і. Скончыў Рыжскую духоўную семінарыю, уступіў у Ордэн Братоў Прапаведнікаў (дамініканцаў). 3 чэрвеня 1984 года прыняў святарскае пасвячэнне. Служыў на Піншчыне.

6 мая 1999 года папа Ян Павел II прызначыў яго тытулярным біскупам Бланды Юліі і дапаможным біскупам Пінскай дыяцэзіі. Дэвізам служэння іерарха з'яўляюцца словы з малітвы "Ойча наш" – "Fiat voluntas Tua" ("Будзь воля Твая").

### ekai.pl

**НЕкаталіцкія псіхіятрычныя бальніцы**

**Бельгійская кангрэгацыя братоў міласэрнасці пакінула 15 псіхіятрычных бальніц, якімі яны валодаюць, пасля рашэння Кангрэгацыі дактрыны веры аб забароне гэтым установам выкарыстоўваць слова "каталіцкі" ў сваіх назвах з-за згоды на эўтаназію пацыентаў.**

Ватыканская кангрэгацыя падкрэсліла, што "эўтаназія застаецца недапушчальнай нават у крайніх выпадках". Згодна з вучэннем Касцёла, рэалізацыя такой практыкі ў каталіцкіх шпіталях немагчыма, роўным чынам, як і супрацоўніцтва ў гэтым плане з грамадзянскімі ўстановамі.

### STACJA7.PL

**Хрыстос у масцы**

**Статую Хрыста-Адкупіцеля ў Рыа-дэ-Жанейра (Бразілія) асвяцілі такім чынам, што на твары фігуры з'явілася ахоўная маска.**

Адзін з самых вядомых у свеце помнікаў, які ўзвышаецца на 700-метровай гары, зачынены для турыстаў з сярэдзіны сакавіка. З таго часу статуя нясе маўклівыя пасланні, адлюстраваныя з дапамогай лазернага святла. Часцей за ўсё гэта словы падтрымкі і падзякі ўрачам у барацьбе з каранавірусам.

Сярод іншых, на аблічы Хрыста была заўважана ахоўная маска, а на грудзях – вялікае сэрца і надпіс: "Mascara salva" ("Маска ратуе"). Гэты жэст нагадвае пра важнасць выкарыстання сродкаў аховы для ўсіх людзей, якія выходзяць з дому.




## Ці грэх дапамагаць бацькам па гаспадарцы ў нядзелю?

*Дапамога бацькам – гэта клопат пра іх, які вынікае з натуральнага права. Гэтаму вучыць таксама Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў разважаннях пра IV Божую запаведзь: "Адносна бацькоў дзеці абавязаны выказваць пашану (сыноўнюю любоў), удзячнасць, пакору і паслухмянасць, садзейнічаючы такім чынам, а таксама праз добрыя адносіны паміж братамі і сёстрамі, узрастанню гармоніі і святасці ўсяго сямейнага жыцця. У выпадку, калі бацькі апынуліся ў беднасці, хваробе, адзіноце, старасці, дарослыя дзеці павінны дапамагаць ім маральна і матэрыяльна" (Кампендый ККК, 459).*

*Добра разумеем, што калі мы дапамагаем бацькам, то такім чынам таксама славім Бога, які нам іх даў і даверыў у іх слабасці і старасці. Дзеці павінны заўважаць тыя сферы, у якіх бацькам або камусьці з родных патрэбна дапамога. Са свайго боку бацькі хочуць як мага даўжэй дапамагаць дзецям і ўнукам як матэрыяльна, так і духоўна (вельмі важнай дапамогай з'яўляецца малітва). Асаблівым чынам многія бацькі клапоцяцца пра гаспадарку, якая "корміць" іх саміх і родных. Гэта ў першую чаргу датычыць жыхароў вёсак ці аграгарадкоў, аднак не толькі іх.*

*У нядзелю і святочныя дні вернікі павінны ўстрымлівацца ад заняткаў, каб гэты дзень прысвяціць сустрэчы з Богам і адпачынку ў коле сям'і. Аднак здараюцца сітуацыі, калі сапраўды немагчыма зрабіць усё у буднія дні, бо, напрыклад, дзеці ці ўнукі не могуць прыехаць да мамы і таты або бабулі і дзядулі ў іншы дзень, а яны самі хворыя ці ўжо не маюць сілы працаваць. У такім выпадку можна лічыць, што праца па гаспадарцы ў нядзелю – гэта неабходнасць (няма іншых магчымасцей, напрыклад, не хапае сродкаў, каб наняць кагосьці на працягу тыдня або няма каго наняць). Аднак нельга апраўдаць парушэнне III Божай запаведзі, калі хтосьці адкладвае некаторыя заняткі менавіта на нядзелю, хоць можа было зрабіць гэта ў будні дзень. Трэба паспавядацца, каб з чыстым сэрцам прыняць св. Камунію.*

*Варта памятаць і пра тое, што грахом з'яўляецца не толькі неабавязковая праца ў нядзелю, але і лянота наогул. Узнікае таксама пытанне пра неабходнасць і мэтазгоднасць утрымання гаспадаркі чалавекам, які сам не ў стане за ёю глядзець. У асобных выпадках такі стан рэчаў можна лічыць грахом супраць бацькоў і супраць дзяцей.*

*Такім чынам, трэба пазбягаць працы ў нядзелю; і калі хтосьці пры магчымасці дапамагаць бацькам па буднях спецыяльна адкладвае заняткі па гаспадарцы на нядзелю, то павінен з гэтага спавядацца. Калі ж інакш не атрымліваецца, а працу неабходна выканаць дзеля любові родных, то гэта не будзе цяжкім грахом.*

*А. Аркадзь Куляха OCD*
***Паводле catholicnews.by***




# Як лепш пазнаць сваё дзіця?



***Кс. Павел Салабуда,*** *псіхолаг*

**Большасць бацькоў упэўнены, што менавіта яны лепш за ўсё ведаюць сваіх дзяцей. Такое перакананне трывае да моманту, пакуль дзеці не здзівяць іх. Часцей за ўсё тады ад дарослых можна пачуць словы кшталту "мы не чакалі ад цябе такога".**

**Некаторыя бацькі прызнаюць, што ўсё ж не так добра ведаюць сваіх дзяцей. Прычына часцей за ўсё ў тым, што яны не выкарыстоўваюць штодзённыя нагоды, каб пабыць з дзіцём, паразмаўляць з ім, даведацца, аб чым думае і г. д. Хацелася б прыгадаць некалькі важных парад для бацькоў, каб іх адносіны з дзецьмі не былі падобны на руціну.**

**1. Змяніце пункт гледжання.** Паспрабуйце пaглядзець на сваё дзіця як на цікавага чалавека. Замест банальных пытанняў тыпу "што было ў школе?" ці "што хочаш на вячэру?", пачніце цікавіцца, якія мае погляды, што адчувае, што думае на важныя тэмы. Тады дзіця адкрываецца па-новаму, на пэўныя рэчы глядзіць інакш. Уважліва назірайце за ім у розных жыццёвых сітуацыях.

**2. Вядзіце цікавыя размовы.** Важна ўважліва слухаць дзіця і адказваць на ўсе яго пытанні. Не абавязкова весці доўгія гутаркі, не варта расказваць даўжэй, чым малое хоча слухаць. Часцей за ўсё праз некалькі дзён дзіця само вернецца да гэтай размовы. Варта таксама гутарыць з дзіцём у розных абставінах: напрыклад, падчас веласіпеднай паездкі або лежачы ў ложку, каб пазбегнуць пастаянных схем размоў, напрыклад, падчас дарогі ў школу.

**3. Арганізуйце гульню ў пытанні.** Добрай магчымасцю пагутарыць з'яўляецца задаванне адзін аднаму цікавых пытанняў. Так, хутчэй даведаецеся, чаго хоча дзіця, калі прапанаваць яму ўявіць, што злавіла залатую рыбку, і папрасіць расказаць ёй пра сваю мару. Альбо таксама можна спытацца, якая ваша звычка яму больш за ўсё не падабаецца і да т. п. Калі дзіця малое і любіць маляваць, можаце абмяняцца малюнкамі і расказаць пра тое, хто што намаляваў.

**4. Гаварыце дзіцяці пра сваю любоў да яго.** Гэта самая важная і вельмі складаная задача. Не ўсе ўмеюць гэта рабіць. Недастаткова сказаць дзіцяці "маё любімае", варта стварыць уласную мову любові з дзіцём. Размовы пра любоў будуюць унікальную сувязь. Дзіця праз гады часта з радасцю вяртаецца да слоў з сямейнага "шыфру".

***Карыстайцеся любой магчымасцю, каб пазнаць сваё дзіця. Маліцеся за яго і прасіце ў Бога неабходных ласкаў. Калі паспрабуеце бліжэй пазнаёміцца з дзіцём, будзеце чэрпаць яшчэ больш радасці з бацькоўства, а многія складанасці, звязаныя з выхаваннем, адпадуць самі па сабе.***




*"Дзеля свабоды вызваліў вас Хрыстос. Таму трывайце і не паддавайцеся ярму няволі!"*

*(Гал 5, 1)*

• *працяг з №8, с. 4*

### ПЕРАМОГА НАД Д'ЯБЛАМ

Д'ябал, які быў скінуты на зямлю разам са сваімі анёламі (параўн. Ап 12, 9), вякамі вядзе зацятую барацьбу за валоданне душой кожнага чалавека. Пякельныя пананванні, улады, гаспадары цемры, нябесныя духі злосці (параўн. Эф 6, 12) у першую чаргу атакуюць веру і волю чалавека, таму што старадаўні цмок дасканала ведае, што не мае ніякай улады над асобай і нічога не можа зрабіць таму, хто застаецца верны Богу і хоча Яму добраахвотна служыць.

Менавіта дзеля таго, каб схапіць чалавека ў пастку і перацягнуць на ўласны бок, нячысты дух выкарыстоўвае сваю надзейную зброю: падман, фальшывае абвінавачванне і "муціць ваду". Чым больш бруду выльe, тым большая магчымасць давесці чалавека да сумненняў і роспачы. Мэтай заўсёды з'яўляецца развязванне сярод людзей буры эмоцый, сумненняў, нявер'я ва ўласную годнасць, чысціню намераў іншага чалавека і нават самога Бога.

Перад аблічам паклёпа і няпраўды ўзнікае верагоднасць таго, што ўспрыманне асобай рэальнасці сказіцца і зменіцца ў горшы бок. Тады ў людскім сэрцы могуць узнікаць раны, боль, неспакой, страх, недавер, гнеў, прыгнёт, дэпрэсія і ўсялякія крыўды і недавер. У выніку гэтага воля чалавека слабне, а сам ён робіцца няўстойлівы і можа з лёгкасцю добраахвотна ўпасці ў духоўную цемру, грэх нянавісці да іншага чалавека і сетку непрабачэння.

У такіх выпадках вельмі важна мець цвёрдую веру і веды аб моцы дзеяння Крыві Ягняці, каб не паддацца варожым інтрыгам і не спалохацца буры.

Д'ябал дасканала ведае аб сваім паражэнні праз Крыж Збаўлення, аднак заўсёды спрабуе пашырыць сваё замяшанне і маніпуліраваць да таго часу, пакуль мае на гэта дазвол з-за адсутнасці супраціўлення з боку чалавека. Часта Божы люд трапляе ў збянтэжанасць і варожую пастку з-за недахопу веры і ведаў (параўн. Ос 4, 6; Іс 5, 13) аб тым, што патрэбна рабіць ў падобным выпадку. Як на моры падчас буры Езус запытаў вучняў: "Дзе ваша вера?", – так і кожны з нас павінен рашуча запытаць сябе: "Дзе мая вера?". Ці спалохаюся я навальніцы, хаосу, здрады, хлусні, непаразумення, нянавісці і іншых д'ябальскіх выкрутаў? Або захаваю непахісны спакой, ясную свядомасць, упэўненасць і буду трымаць цвёрдую пазіцыю перамогі ў веры: "Я трываю ў Езусе, а Езус – ува мне! Кроў Езуса ўжо перамагла цябе, д'ябал, таму нічога не можаш мне зрабіць"? Божае слова дае нам дакладную параду: "Таму пакарыцеся Богу, а супраціўляйцеся д'яблу, і ён уцячэ ад вас" (Як 4, 7).

Калі нячысты дух спрабуе атакаваць чалавека словам хлусні, то хрысціянін павінен словам веры наносіць зваротныя прыцэльныя ўдары князю цемры. Акрамя таго, належыць "акунаць" праблемныя адносіны з іншымі людзьмі ў Кроў Езуса, таму што яна асляпляе д'ябла, і той губляе арыентацыю і перастае бачыць сваю мэту. Кроў Збаўлення дзейнічае быццам магутная атамная зброя супраць планаў дэманаў, разбівае ўсялякую сцяну варожасці і непаразумення, таму моцы цемры не маюць ніякіх шансаў, калі мы пачынаем праслаўляць здзейсненае на Кальварыі.

Сапраўды барацьба за душу кожнага чалавека ўжо скончана перамогай Езуса на крыжы. Застаецца толькі прыняць гэты факт, паверыць сэрцам і вуснамі абвясціць перамогу Яго Крыві ў сваёй свядомасці і ўласным жыцці, і трываць у гэтай праўдзе. Святое Пісанне выразна гаворыць: "Ён сцёр запіс нашых даўгоў, які быў супраць нас, і скасаваў яго, прыбіўшы да крыжа. Раззброіў пананванні і ўлады, выставіў іх напаказ, трыумфальна перамогшы іх у Хрысце" (Кал 2, 14–15).

Трываючы ў Езусе, мы атрымліваем такую ж сілу пазбаўляцца ад усякіх нябачных ворагаў на жыццёвым шляху, яснае, незамутненае разуменне варожых маніпуляцый, а праз Святога Духа – адвагу і моц, каб выявіць любы падман і выставіць яго на пасмешышча. Калі з падзякай асабіста сведчым: "Крывёю Ягняці я ачышчаны, асвечаны, апраўданы, абмыты ад усякага бруду, аднаўлены і вырваны з рукі д'ябла", – духоўна пераносімся з царства цемры ў Царства Жывога Бога і разам з Езусам сядаем праваруч на Нябёсах, вышэй за ўсялякае княжанне і ўладу, і сілу, і панаванне (параўн. Эф 1, 20–21).

*Людвіга Цыдзік*

## НАВІНЫ



## ІМЯНІНЫ ПАСТЫРА ДЫЯЦЭЗІІ

У дзень імянін біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узначаліў св. Імшу ў касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Напрыканцы прысутныя вернікі склалі ардынарыю сардэчныя віншаванні.

Акурат у гэты дзень у Паўсюдным Касцёле адзначалася Нядзеля Добрага Пастыра, таму сабраныя ў катэдральнай базіліцы асаблівым чынам маліліся ў інтэнцыі пакліканняў да святарства, а таксама памяталі пра святароў, якія спаўняюць служэнне на Гродзеншчыне. У сувязі з тым, што ў першую нядзелю мая ў дыяцэзіі адзначаецца Дзень маці, маліліся і ў інтэнцыі ўсіх маці – жывых і памерлых.

## ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Алюмны VI курса Гродзенскай ВДС афіцыйна завяршылі фармацыю. Падзякай за час, праведзены ў семінарыі, для 3-ох дыяканаў была св. Імша з удзелам біскупаў дыяцэзіі і кіраўнікоў духоўнай навучальнай установы. У бліжэйшы час дыяканы прымуць святарскія пасвячэнні і будуць прызначаны на службу ў свае першыя парафіі.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Вернікі шчучынскай парафіі св. Тэрэзы Авільскай і іўеўскай парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла перадалі ў мясцовыя медыцынскія ўстановы санітарна-гігіенічныя сродкі аховы. • Урачыстае ўступленне на пасаду пробашча кс. Паўла Звяжынскага адбылося ў парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску. • Вернікі парафіі св. Юрыя ў Варнянах (дэканат Астравец) прывіталі новага пробашча – кс. Віктара Захарэўскага.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## Каляндар падзей

***18 мая***
*100-годдзе з дня нараджэння св. Яна Паўла II.*

***18–20 мая***
*Дні малітвы аб добрым ураджаі і за галадаючыя краіны.*

***21 мая***
*Урачыстасць Унебаўшэсця Пана.*

***22 мая***
*Распачацце навэнны перад урачыстасцю Спаслання Святога Духа.*

***23 мая***
*29-ая гадавіна біскупскіх пасвячэнняў пастыра дыяцэзіі. Молімся ў інтэнцыі кс. б-па Аляксандра Кашкевіча і яго плённай апостальскай паслугі ў нашай дыяцэзіі.*

***26 мая***
*Успамін св. Філіпа Нэры, святара.*

***31 мая***
*Урачыстасць Спаслання Святога Духа.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Май***
*Аб ахове ад зла і разбэшчанасці нашых дзяцей. У інтэнцыі навяртання распуснікаў і тых, хто распаўсюджвае насілле адносна малых. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

**У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:**

**18 мая 1987 г.** – кс. прэлат Казімір Арлоўскі, *проб. Адамавічы;*
**26 мая 1951 г.** – кс. Ян Рудзінські, *проб. Адэльск.*

# МІСІЯ ВЫКАНАЛЬНАЯ

*"Ты застанешся тут пэўны час". Гэтыя словы пачула з вуснаў Марыі маленькая Луцыя. Маці Божая прыходзіла да трох фацімскіх пастушкоў на зялёным кавалку пашы, які належаў бацькам дзяўчыны, але толькі ёй дала магчымасць весці размову з сабой.*

*Дзяўчына атрымала пэўную місію – павінна была стаць сведкай Неба сярод людзей і данесці ім галоўнае фацімскае пасланне: навяртанне і збаўленне сябе і бліжняга. Луцыя адказна выконвала даручэнне – гартавала ўласныя цноты, ахвяравала сваё жыццё Богу праз уступленне ў кляштар, а напрыканцы жыцця напісала кнігу, дзе ў дакладных кароткіх формулах прадставіла тое, да чаго заклікала Неба ў Фаціме.*

*У 20-гадовы юбілей выдання "Апэляў фацімскага паслання" прыглядзімся да асноўных просьбаў Найсвяцейшай Панны Марыі, перададзеных нам с. Луцыяй.*

1. **ЗАКЛІК ДА ВЕРЫ**
*Трываць у даверы да Госпада, калі ўсё ў жыцці складваецца і калі мары руйнуюцца.*

2. **ЗАКЛІК ДА АДАРАЦЫІ**
*Усвядоміць, што кавалак Хлеба – гэта Хрыстос, і пакланіцца Яму ў захапленні.*

3. **ЗАКЛІК ДА НАДЗЕІ**
*Дапусціўшы маленькую правіну або вялікі грэх, спадзявацца на міласэрнасць Усявышняга.*

4. **ЗАКЛІК ДА ЛЮБОВІ ДА БОГА**
*Памятаць, што з любові да Госпада вынікае здольнасць любіць чалавека.*

5. **ЗАКЛІК ДА ПРАБАЧЭННЯ**
*Навучыцца не прыпадабняцца крыўдзіцелю і не жадаць помсты.*

6. **ЗАКЛІК ДА МАЛІТВЫ**
*Звяртацца да Бога распаўсюджанымі малітвамі і не забывацца пра асабістыя шчырыя словы.*

7. **ЗАКЛІК ДА АХВЯРЫ**
*Зразумець сэнс цярпення і прысвяціць яго дзеля збаўлення патрабуючых.*

8. **ЗАКЛІК ДА ЎДЗЕЛУ Ў ЭЎХАРЫСТЫІ**
*Не прапускаць магчымасці прыняць Хрыста ў св. Камуніі і напоўніцца Ім.*

9. **ЗАКЛІК ДА БЛІЗКАСЦІ З НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОЙЦАЙ**
*Спазнаць Бога Айца як клапатлівага Бацьку, Бога Сына як надзейнага Сябра і Святога Духа як мудрага Настаўніка.*

10. **ЗАКЛІК ДА ШТОДЗЁННАЙ РУЖАНЦОВАЙ МАЛІТВЫ**
*Адкрыць прыгажосць і плён гэтай малітвы.*

11. **ЗАКЛІК ДА НАБАЖЭНСТВА ДА БЕЗЗАГАННАГА СЭРЦА МАРЫІ**
*Знайсці прытулак у сэрцы Маці Божай.*

12. **ЗАКЛІК ДА АПОСТАЛЬСТВА**
*Засяродзіцца над Евангеллем і абвяшчаць Добрую Навіну ў сваім асяроддзі.*

13. **ЗАКЛІК ДА РАЗВАЖАННЯ НАД ВЕЧНЫМ ЖЫЦЦЁМ**
*Не забывацца, што кожная думка і дзеянне аддаляюць або набліжаюць да дасягнення шчасця ў Нябесным Валадарстве.*

14. **ЗАКЛІК ДА ТРЫВАННЯ Ў ДОБРЫМ**
*Гартаваць здольнасць супрацьстаяць спакусам.*

15. **ЗАКЛІК ПЕРАСТАЦЬ АБРАЖАЦЬ БОГА**
*Самім не вярэдзіць Яго раны і ўмець абараніць Імя Госпада.*

16. **ЗАКЛІК ДА СВЯТАСЦІ Ў СЯМ'І**
*Клапаціцца пра сумленнае жыццё родных: калі дапамагаць парадай, а калі – малітвай.*

17. **ЗАКЛІК ДА ДАСКАНАЛАСЦІ ХРЫСЦІЯНСКАГА ЖЫЦЦЯ**
*Натхняцца прыкладамі святых і спрабаваць наследаваць іх.*

18. **ЗАКЛІК ДА ЖЫЦЦЯ Ў ПОЎНЫМ ПРЫСВЯЧЭННІ СЯБЕ БОГУ**
*Аддаць Яму ўсё ў надзеі на большую каштоўнасць.*

19. **ЗАКЛІК ДА СВЯТАСЦІ**
*Спатыкнуўшыся, адразу прыступаць да споведзі, каб трымаць сэрца чыстым.*

20. **ЗАКЛІК КРОЧЫЦЬ ШЛЯХАМ НЕБА**
*Прымаць навуку Хрыста нават тады, калі іншыя людзі яе не прымаюць.*

*Ангеліна Марцішэўская*

## Дзіцячы куточак

# Адказнасць за сваё жыццё і за жыццё іншых

*Прывітанне, Маленькі Чытач!*

*Апошнім часам Каталіцкі Касцёл настойліва заклікае вернікаў, каб па магчымасці заставаліся дома і ўдзельнічалі ў набажэнствах праз інтэрнэт. Дзеля чаго гэта патрэбна? Увесь свет ахапіў каранавірус – страшэнная хвароба, якая нясе спусташэнне і смерць. У небяспецы заражэння знаходзіцца кожны чалавек. Лекаў, якія маглі б прадухіліць распаўсюджанне інфекцыі, на жаль, няма. І адзінае, што можа дапамагчы ўсім нам, каб не захварэць, – гэта захаванне неабходных мер засцярогі.*

*Да комплексных мер адносіцца самаізаляцыя, калі трэба выконваць строгі рэжым: не выходзіць на вуліцу без вострай неабходнасці, абмежаваць кантакты з іншымі людзьмі і прытрымлівацца рэкамендацый па прафілактыцы вірусных захворванняў, прапанаваных медыкамі. Гэтыя варункі бяспекі датычаць людзей усіх узростаў. Асноўныя парады спецыялістаў дастаткова простыя: часцей мыць рукі, надзяваць маскі ў грамадскіх месцах, піць шмат вадкасці, добра адпачываць і харчавацца.*

*Кожны з нас перад Богам адказвае за сваё жыццё і жыццё іншых людзей. Дзеля гэтага Усемагутны даў нам V запаведзь – "Не забівай". Калі чалавек не захоўвае правілы асабістай бяспекі і гігіены, ён падвяргае небяспецы, перш за ўсё, сваё здароўе. Вірус перадаецца ад чалавека да чалавека, і заразіцца можа кожны, у любым месцы, у тым ліку і ў касцёле, побач з іншымі вернікамі. Дастаткова аднаго заражанага чалавека, каб хвароба пайшла далей. Неадказнае стаўленне да заклікаў можа спраўкакваць вялікую бяду. Таму Касцёл заклікае людзей заставацца дома, бо кожнаму з нас жадае дабра.*

*Прапаную Тваёй увазе апавяданне пра хлопчыка, які не паслухаўся маці. Яно выразна паказвае, як безадказнасць чалавека можа выклікаць зло, якое запусціць бесперапынны ланцужок дрэннага.*

***Маці забараніла сыну гуляць дома з мячом, але ён гэта праігнараваў. Раптам мячык трапіў у вазу, і яна разбілася. Хлопчык схлусіў, каб пазбегнуць пакарання. Ён сказаў маме, што гэта малодшы брат, поўзаючы, разбіў вазу.***

***Жанчына вельмі раздражнілася: гэта была любімая ваза! Яна сабрала кавалкі вазы і паспрабавала іх склеіць. Але забылася выняць смажаніну з духоўкі, і тая згарэла. Калі бацька прыехаў дадому, есці не было чаго. Пасварыўшыся з жонкай па гэтай прычыне, ён, раззлаваны, пайшоў на абед у кафэ за вуглом. Там перанёс сваю злосць на афіцыянта, які стаў моцна нервавацца і міжволі перавярнуў кубак кавы на жанчыну, запэцкаўшы той сукенку. Жанчына села ў машыну і накіравалася дадому, каб пераапрануцца. Але яна так моцна засмуцілася, што з-за слёз не бачыла дарогі. Не паспела спыніцца на светлафоры і ўрэзалася ў машыну наперадзе. Кіроўца пашкоджанага аўтамабіля выйшаў вельмі раззлаваны. Да таго ж, ён спазняўся на працу.***

***Так сталася, што той мужчына выкладаў у школе, сярод вучняў якой быў і хлопчык, што разбіў вазу. Настаўнік прыехаў на працу ў вельмі дрэнным настроі. На ўроку яму ўвесь час здавалася, што хтосьці перашкаджае. Першым, хто трапіў на вочы і хутка атрымаў пакаранне, аказаўся менавіта той самы хлопчык... Так, не паслухаўшыся маці і схлусіўшы, ён распачаў ланцуг злосці і раздражнёнасці, а цяпер заплаціў за свой дрэнны ўчынак.***

*Мы не заўсёды ўсведамляем наступствы, што могуць мець нашы дзеянні, але павінны паспрабаваць унесці ў свет любоў і радасць, каб пачаць ланцужок дабра.*

**Заданне:** *маліся разам з бацькамі за нашу краіну, каб як мага хутчэй мінула пандэмія каранавіруса.*

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды 29-ай гадавіны біскупскай сакры ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, цярплівасці ў пастырскай паслузе, апекі Маці Божай і святога заступніка, дароў Святога Духа, патрэбных ласкаў ад Усемагутнага. Няхай Бог адорвае Вас сваёй любоўю і блаславеннем, людская дабрыня і зычлівасць заўсёды спадарожнічаюць, а кожны дзень паслугі прыносіць шчодры плён.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Галоўнаму Рэдактару Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення і людской зычлівасці. Няхай Святы Дух асвячае Ваш шлях на працягу ўсіх гадоў святарскай паслугі, Маці Божая выпрошвае сіл, цярплівасці і стойкасці ў жыцці, а Анёл-ахоўнік верна Вам служыць. Няхай кожны дзень прыносіць радасць і задавальненне.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанай Сястры Веранiцы Блізнюк**

з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Усемагутны Бог і Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды трымаюць Вас у сваёй апецы, а Святы Дух натхняе на добрыя і годная справы. Жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, людской добразычлівасці, а таксама Божага блаславлення ў кожную хвіліну жыцця. Шчасці Божа!

*З удзячнасцю, рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Урбану**

з нагоды дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: шчодрых Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, шмат сіл, цярплівасці, нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе і моцнага здароўя. Няхай добры Бог узнагародзіць за кожнае намаганне, высілак, працу, якую робіце, каб наблізіць нас да Пана.

*Удзячныя вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Юрый Марціновіч!**

З нагоды дня нараджэння жадаем Вам моцнага здароўя, спакою ў сэрцы, нястомных сіл і цярплівасці для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, аптымізму, зычлівасці ад людзей і патрэбных Божых ласкаў. Далучаем да віншаванняў сваю малітву.

*Вернікі з парафіі бл. Мар'яны Бярнацкай, Гродна (Баранавічы-Ласосна)*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

прагнем сардэчна падзякаваць за паслугу ў нашай парафіі і бацькоўскі клопат пра кожнага з нас. Шчыра дзякуем за час, прысвечаны нам, за ўсе парады і любую дапамогу ў нашых справах і праблемах. Дзякуем за клопат пра нашу святыню і катэхізацыю дзяцей і моладзі. Няхай добры Бог блаславляе кожны дзень у новай парафіі і ставіць на шляху толькі зычлівых людзей, а Маці Божая няхай мае ў сваёй асаблівай апецы.

*Удзячныя вернікі з Варнянаў і Вароны*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды 14-ай гадавіны святарства перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды акружаюць промні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы заступнік заўсёды знаходзіцца побач. Мы вельмі ўдзячныя Богу за тое, што ў нас служыць такі святар, які вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі, шчыры ў малітве і працы, гатовы заўсёды прыйсці на дапамогу. Дзякуем Вам за павучальныя казанні, дабрыню, зычлівую ўсмешку, цярплівасць, сціпласць і клопат пра людзей.

*З павагай і малітвай вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Урбану**

з нагоды дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: нязгаснага духоўнага агню ў святарскай паслузе і Божага блаславлення на кожны дзень. Няхай Ваша жыццё будзе жывым голасам Евангелля і сведчаннем любові Бога да чалавека. Няхай Марыя ахінае сваёй нястомнай апекай і выпрошвае неабходныя ласкі і сілы, патрэбныя для кіравання нашай парафіяй і абвяшчэння Божага слова.

*З удзячнасцю і малітвай апостальства "Маргарытка", малітоўная група "Сям'я Найсвяцейшага Сэрца Езуса", Жывы Ружанец і Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Парэчча*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**

прагнем выказаць шчырую ўдзячнасць за гады паслугі сярод нас. Вы сталі сапраўдным айцом кожнай сям'і ў нашай парафіі, ведалі ўсіх па імені. Мы заўсёды маглі знайсці ў Вас падтрымку і атрымаць канкрэтную параду. Ад усяго сэрца жадаем Вам шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, стойкасці на святарскім шляху. Няхай Пан Езус прытуляе Вас да свайго Сэрца і асвячае прамянямі міласэрнасці, а Маці Божая накіроўвае кожны дзень.

*Вернікі з Раготна, Стараельні і Дварца*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія;** год заснавання – **1997;** рэгістр. **№1085;** выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2228; тыраж 4046; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная